Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 33(69) 16 - 22 жніўня 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Цырымонія ўступлення на пасаду прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына, якая адбылася 9 жніўня ў Крамлі, доўжылася не больш за 20 хвілін. Хаця на падрыхтоўку да яе быў выкарыстаны ўвесь час, які прайшоў з дня выбараў. Пад бой курантаў ў зале Крамлёўскага палаца з'явіўся Ельцын. Пасля прыняцця прысягі прэзідэнтам Ягор Строеў усклаў на яго Знак прэзідэнта, Патрыярх Алексій II даў кароткае наканаванне. Святкаванне ў Маскве аказалася азмрочаным– з новай сілай аднавіліся ваенныя дзеянні ў Чачні. Не выключана, што гэтая аперацыя была спланаваная па часе так, каб супасці з інаўгурацыяй прэзідэнта Ельцына. Нацыя ў паўтара мільёна чалавек адмаўляецца падпарадкоўвацца ваеннай сіле вялізнай дзяржавы. У наступным рашэнне гэта праблема атрымала ў прызначэнні на пасаду паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта Расіі ў Чачні Аляксандра Лебедзя, старшыні Савета бяспекі Расіі, ад якога ўсе чакаюць рашучых дзеянняў.

Хуткацечнасць правядзення цырымоніі толькі ўзмацніла чуткі аб дрэнным стане здароўя кіраўніка дзяржавы. Арганізатары мерапрыемства зрабілі ўсё магчымае, каб звесці да мінімуму кантакты Ельцына. Па гэтай прычыне, верагодна, і не адбылася аб'яўленая асабістая сустрэча з ім Лукашэнкі. Назіральнікі на ўсялякі выпадак будуюць магчымыя схемы развіцця падзей з удзелам палітыкаў і партый, якія могуць скарыстаць нямогласць Ельцына, каб у той ці іншай кааліцыі "узяць Крэмль". Але Крэмль ужо ў прынцыпе заняты. Бо Дзярждума дала згоду на зробленае прэзідэнтам Расіі перад выхадам у двухмесячны адпачынак, прызначэнне Чарнамырдзіна кіраўніком нанова створанага ўрада. Гэта падзея пакладзе пачатак замацаванню кардынальных змен, якія адбываюцца ў верхніх эшалонах улады Расіі. Да кіраўніцтва прыходзяць новыя людзі. Таму і наогул зразумела, што прэзідэнт РБ, запрошаны на інаўгурацыю, імкнуўся сустрэцца ў першую чаргу з імі. Задача заключалася не столькі ў тым, каб пазнаёміцца, а ў зверцы курсаў нашых дзяржаў. Аб выніках гэтых кантактаў меркаваць рана.

Але хочацца выдзеліць усё ж вынікі сустрэч з двума палітыкамі Расіі, не "навічкамі". Калі з Віктарам Чарнамырдзіным размова вялася ў асноўным па эканамічных пытаннях, то з Ягорам Строевым гаварылі аб грамадска-палітычнай сітуацыі ў дзвюх дзяржавах. Акрамя гэтага Старшыня Савета Федэрацыі Расіі праінфармаваў нашага прэзідэнта аб апошнім візіце спікера Шарэцкага ў Арлоўскую вобласць. Інфармацыя была вельмі непрыемнай, па водгуках А. Лукашэнкі. Гэта мае адносіны да палітычнага крызісу ў Беларусі. Каго падтрымаюць расійскія палітыкі? Тут няма вызначанасці.

Усе гэтыя падзеі і падрыхтоўка ў бліжэйшыя тры месяцы да рэферэндуму прывядуць да рэзкага ўзмацнення палітычнага супрацьстаяння. Адначасова большасць насельніцтва нашай краіны незнаёмая са зместам дзеючай Канстытуцыі і не зможа ў сувязі з гэтым ацаніць змены, што мяркуецца вынесці на ўсенароднае абмеркаванне. Таму і адказы "Так" ці "Супраць" будуць адносіцца да пытання падтрымкі палітыкі, якая праводзіцца прэзідэнтам. Вядома, гэта і будзе галоўнай задачай, якую трэба вырашыць на рэферэндуме.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Астравеччына прыбіраецца– набліжаецца семінар і, магчыма, прэзідэнт

Неўзабаве ў Астравецкім раёне пройдзе абласны сельскагаспадарчы семінар. Відавочна, дзякуючы гэтаму апошнімі тыднямі тут вядзецца актыўная падрыхтоўка. Новы, прыгожы выгляд набылі, пасля таго як іх пафарбавалі, крамы на станцыі Гудагай, намнога чысцейшымі, з пабеленымі бардзюрамі сталі вуліцы ў Астраўцы, наводзіцца парадак у лясных масівах, што ля асноўных дарог...

Але семінар– семінарам. А больш за ўсё на Астравеччыне чакаюць прыезд прэзідэнта. Вядома, што ён наведае Гродзеншчыну і, магчыма, край Астравецкі. Нікому з кіраўнікоў не хочацца чырванець за кепскую работу. Шкада толькі, што падобная прыгажосць у нашых раёнах наводзіцца ў самым лепшым саўдэпаўскім стылі: напярэдадні семінару ці прыезду першай асобы дзяржавы. Словам, прэзідэнт едзе!

*Аддзел інфармацыі.*

## Грыбы з'еш сам, а ягады аддай суседу

У мінулым нумары была змешчана інфармацыя аб выпадках забруджвання радыенуклідамі грыбоў, ягад на Вілейшчыне. Пасля публікацыі ў рэдакцыю тэлефанавалі чытачы з просьбай паведаміць нумары, па якіх можна атрымаць інфармацыю па праверцы дароў лесу. Што мы і робім.

| | |
|---|---|
| Маладзечна | 68092 |
| Астравец | 22106 |
| Ашмяны | 22435 |
| Мядзел | 54324 |
| Вілейка | 55866, 55684 |
| Смаргонь | 22336, 21939 |
| Валожын | 55033 |




## Навіны

### Дошка гонару

*Рэспубліка спаборнічае, Маладзечна– сабе наўме.*

Адноўленае спаборніцтва, якое раней называлася сацыялістычным, дае плён: адраджаюцца Дошкі гонару. У Маладзечне ж вырашылі спаборнічаць без "дошак". Гарадскую ганаровую дошку ўзялі, ды вывезлі на сметнік. Манументальнага збудавання, якое падчас перабудовы існавала ўжо як рэкламны шчыт, больш няма. Віват, спаборніцтва! Віват, маладзечанскае вальнадумства!

*Мікола РЫГОЎСКІ.*



### Вястун важыць 400 кг

*СМАРГОНЬ. У касцёле Міхала Архангела свята– з Польшчы прыехаў звон, які набылі за асабістыя грошы два родныя браты-смаргонцы.*

яго падарылі парафіі ў Смаргоні. Раней былі тры вестуны. Адзін, па словах старажылаў, цяпер у музеі ў Гродне. Другі пазычыў касцёлу Свір і потым забраў назад. Ксёндз Генрык Куляшэвіч хоча поўнасцю аднавіць знешні выгляд касцёла, таму плануе набыць яшчэ два званы па 500 і 750 кілаграмаў кожны.

*Васіль САВІЦКІ.*

### "Магутны божа" і салдаты

*МЯДЗЕЛ. Скаўты ў агульнарэспубліканскім летніку на возеры Свір уздымалі бела-чырвона-белы сцяг і спявалі свой гімн "Магутны Божа".*

На ўрачыстым адкрыцці прысутнічалі вайскоўцы з Пастаў. Спачатку салдаты, якіх запрасілі сачыць за дысцыплінай і вырашаць некаторыя гаспадарчыя пытанні, бянтэжыліся. А потым далучыліся да гульні. Каталі дзяцей на бэтээры, удзельнічалі ў рэлігійнай віктарыне і конкурсе кухараў. Але не перамаглі. Куды ім да вілейскіх скаўтаў, якія прапанавалі асарці з бульбы, рачной рыбы і ракаў.

*Аддзел інфармацыі.*

### "У Вілейцы мафіі няма"

*З год таму ў заходнегерманскім горадзе Уне з'явіліся лістоўкі, якія расказвалі аб Вілейцы, яе праблемах.*

Яны прапануюць некалькі праектаў дапамогі гораду: школе, хворым дзецям. Кожнага жыхара Уны просяць дапамагчы ў ажыццяўленні праектаў, хто чым можа,– грашовымі сродкамі, патрэбнымі матэрыяламі або ўласнай работай.

–Адных лістовак мала,– кажа стваральнік абодвух праектаў Уда Рупенштэйн,– патрэбны асабістыя кантакты, размовы з людзьмі. Некаторыя адмаўляюцца дапамагаць з-за апошніх публікацый у беларускай прэсе наконт размеркавання гуманітарнай дапамогі: не хочам, маўляў, карміць вашу мафію. Тады я тлумачу ўсім, што дапамагаю Вілейцы, а ў Вілейцы мафіі няма. Аўтарытэт вашага горада сярод маіх землякоў вельмі высокі.

*Наталля ВАЛЫНЕЦ.*



### Здароўе шукайце ў крамах

*СМАРГОНЬ. Здаецца, толькі ўступіў у строй цэх па выпуску круп на камбікормавым заводзе, а прадпрыемства адгружае прадукцыю вагонамі на Віцебшчыну і Міншчыну. Рэалізоўвае ва ўласных гандлёвых пунктах у Солах, Крэве, Валэйкавічах. Ёсць попыт.*

Кажуць, прадукцыя з аўсу з'яўляецца лекавым сродкам. А збыт гэта грошы. 20 мільёнаў завод выдзеліў раённай бальніцы на набыццё дыягнастычнага абсталявання. Яшчэ 5 мільёнаў– сярэдняй школе.

*Тэрэза КУМІШЧА.*

### Фонд дапамагае першакласнікам

*МАЛАДЗЕЧНА. На жнівеньскім паседжанні грамадскага фонду "Дапамога" прынята рашэнне аказаць падтрымку тым малазабяспечаным сем'ям, дзеці з якіх у верасні пойдуць у першы клас. Да пачатку навучальнага года сорак чатыры хлопчыкі і дзяўчынкі атрымаюць ад фонду ранцы, адзенне, сшыткі з ручкамі і алоўкамі, салодкія падарункі.*

Члены савета пазнаёміліся таксама і з дакументамі ад 168 заяўнікаў, звярнуўшыхся ў фонд "Дапамога" толькі за апошні месяц. 150 з іх атрымаюць аднаразовую дапамогу звыш за 8 млн. рублёў. Ім будзе прапанавана адзенне, якое паступіла з Германіі па каналах гуманітарнай дапамогі.

*Наталля РАБЧАНКА.*

### Банкір за кратамі

*МАЛАДЗЕЧНА. Арыштаваны былы кіраўнік камерцыйнага банка "Альянс". Артыкул, па якому праходзіць падследны,– вымантачванне міжбанкаўскага крэдыту. Рашэнне аб арышце банкіра прымалі ў Мінску.*

У 1991 годзе ствараецца філіял Ніжневартаўскага банка. Праз два гады кіраўніцтва стварае свой банк. Яшчэ праз два гады "Альянс" самаліквідуецца. Цяпер яго стваральнік і кіраўнік пад следствам. Прэзідэнцкая праверка, якая вывучала стан банкаўскіх спраў у горадзе, больш уважліва азнаёмілася з дадзенымі ліквідацыйнай камісіі– "Альянс" завінаваціўся цэнтру занятасці горада Мінска, мінскаму прадстаўніцтву Белдзяржстраху звыш за тры мільярды рублёў.

Як лічыць Ала Семак, кіраўнік мясцовага аддзялення Нацбанка, так склаліся абставіны. "Альянс" размяшчаўся ў будынку ў даўнейшым цэнтры горада (Старое Места), але адносна далёка ад дзелавога цэнтра, таму меў намер пераехаць у іншае месца. Зацвердзіў праект, уклаў сродкі і пачаў будаваць. Адначасова справы ў ім пагоршыліся, банк недастаткова прымаў меры па павелічэнню свайго ўстаўнога фонду і Нацыянальны банк настойліва прапанаваў ліквідавацца.

Кліенты "Альянса" у свой час былі задаволеныя абслугоўваннем. І сёння гавораць, што гэта быў неблагі банк, але з невялікім устаўным фондам – адсюль яго крах. Адзін моцны прадпрымальнік арышт былога кіраўніка "Альянса" разглядае, як палітычныя гульні. Іншыя кажуць, што не абышлося без унутраных разборак.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Адным абзацам

❑ Да шэрагу святаў Указам прэзідэнта ўстаноўлена яшчэ адно– 14 кастрычніка аб'яўлена Днём маці, але, на жаль, выхадным гэты дзень не будзе.

❑ Пашанцавала жыхарам сталічных мікрараёнаў Малінаўка і Паўднёвы Захад, дзе вядуцца работы па стварэнні эфірна-кабельнага тэлебачання. Яны стануць першымі, хто зможа глядзець 16 праграм. Застаецца спадзявацца, што хутка жыхары не толькі Мінска, але і ўсяго рэгіёна змогуць прымаць шматканальнае кароткахвалевае тэлевізійнае вяшчанне.

❑ Першым рэалізаваным праектам Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця ў нашай краіне стала будаўніцтва Мінскага аптовага рынку па гандлю сельгаспрадукцыяй. Вялізны рынак плошчай 11 гектараў і аб'ёмам сховішчаў 8 тысяч тон размесціцца ў 3 кіламетрах ад кальцавой дарогі па гродзенскай шашы. Права на гандаль у адным з 47 аптовых магазінаў каштуе 48 тысяч долараў, месца для гандлю дачнікаў і фермераў з машын– 36 долараў. З адкрыццём гэтага рынку можна чакаць удзешаўлення кошту прадуктаў харчавання, бо скароціцца армія пасрэднікаў, якія мелі салідныя працэнты ад перапродажу.

❑ Згодна з рашэннем Міністэрства гандлю, у бліжэйшы час у сталічных рэстаранах можа адбыцца зніжэнне цэнаў. У цяперашні час нацэнкі ў некаторых даходзяць да 500%, таму іх памер будзе абмежаваны. Аднак і пасля зніжэння цэнаў наўрад ці простыя грамадзяне змогуць дазволіць сабе абед з 3 страў у рэстаране, зарплаты ў лепшым выпадку можа хапіць на фірменны салат.

❑ Урад краіны знайшоў дадатковы сродак папаўнення пустога бюджэту: з 1 лістапада 1996 года за праезд па дарозе Брэст-Мінск-граніца Расіі будзе брацца плата. Яе памер зараз удакладняецца.

❑ На паседжанні Савета бяспекі і калегіі Кабінета Міністраў з удзелам прэзідэнта рэспублікі разгледжана праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 96-97 гады. Праект праграмы падрыхтаваны на базе прапаноў кіраўніцтва, Нацыянальнага банка і незалежных экспертаў.

❑ Абяцанне Міністэрства фінансаў ліквідаваць запазычанасць па заработнай плаце работнікам адукацыі да 10 жніўня – не выканана. Аб'ём запазычанасці паменшыўся ў тры разы і складае больш за 60 мільярдаў руб., з якіх больш як палова– запазычанасць за ліпень. Калі яна не будзе пагашана ў бліжэйшы час, пачатак новага навучальнага года ў некаторых школах можа проста не адбыцца.

❑ Пленум маладзечанскага райкома ПКБ падтрымаў дзеянні прэзідэнта, скіраваныя на яднанне з Расіяй, а таксама станоўча ацаніў меры, прынятыя ў ходзе ўборкі ўраджаю. Адначасова асуджаецца ўчынак першага сакратара ЦК ПКБ С. Калякіна, які паставіў свой подпіс пад вядомым зваротам палітычных партый правесці ў рэспубліцы "круглы стол".

